Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грош.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 17 Вільня, Серада, 15-га верасьня 1926 г. Год I.

## 1906—14/IX—1926.

Роўна двадцаць гадоў назад у Вільні, галоўным цэнтры беларускага адраджэнскага руху, беларускі народ першы раз адкрыта і публічна прамовіў на ўвесь сьвет з страніц першае беларускае газэты.

Гэта ня знача, быццам мы свайго голасу датуль зусім не падавалі. Наадварот: народ наш гаварыў аб сваіх патрэбах і жаданьнях чынным учасьцем у вызвольнай барацьбе пад уладай колішняе панскае Польшчы і царскае Расеі, уласнай крывёй упісываючы свае слова на страніцах гісторыі. Гаварыў вуснамі сваіх падпольных арганізацыяў — рэвалюцыйных гурткоў (народавольцы, Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, Беларуская Сацыялістычная Грамада); гаварыў у нелегальных выданьнях, лістоўках і праклямацыях. А толькі *14 верасьня 1906 году выйшла ў Вільні першая беларуская легальная часопісь*, і толькі з гэнага мамэнту пачала істнаваць і ў нас *свая прэса*, у якой адкрыта і публічна мы можам прамаўляць аб сабе і сваіх патрэбах перад усенькім сьветам.

Як і блізу ў-ва ўсіх важнейшых справах беларускага руху ў тыя часы, ініцыятыва выданьня легальнае беларускае часопісі выйшла ад *Івана Луцкевіча*. Улетку 1906 году ў Вільні адбывалася канфэрэнцыя Беларускае Сацыялістычнае Грамады. І вось тут Іван Луцкевіч выступіў з праектам папробаваць выйсьці з падпольля на легальны грунт і распачаць выдаваньне сваей газэты пабеларуску. Праект быў прыняты аднагалосна, хаця ў усіх учасьнікаў канфэрэнцыі было крыху страху: а ці хваце ў нас сілаў на гэта? ці патрапім?!

Сілы знайшліся. Газэту зладзіць патрапілі, хоць і з вялізарным высілкам. У склад першае рэдакцыі „Нашае Долі" ўвайшлі: Іван Луцкевіч, як галоўны арганізатар і ідэйны кіраўнік часопісі, Ф. Умястоўскі, як літэратурны кіраўнік, Цётка і Ант. Луцкевіч — як сябры рэдакцыі і галоўныя супрацоўнікі. Выхад першага нумару, надрукаванага ў ліку 10,000 экзэмпляраў, разасланага ўсюды, дзе толькі былі сьвядомыя беларусы,— зрабіў нязвычайнае ўражаньне: газэта, ярка выявіўшая адраджэнскі ідэал і ўся пранікнутая духам рэвалюцыі, збудзіла ў масах прыгнечаны ўжо пачаўшайся рэакцыяй дух, падняла настрой і на мамэнт ярка асьвяціла сваім блескам увесь край, над якім ужо зьбіраліся чорныя хмары рэакцыі. Цэлыя масы пісем, карэспандэнцыяў, вершаў пасыпаліся ў рэдакцыю. Пісаныя мазалістай рукой селяніна і работніка, яны рысавалі пачуцьці, якія ахапілі чытачоў пры чытаньні *першае газэты ў роднай мове* — газэты, што так сьмела і рашуча гаварыла ім *аб волі*.

Нядоўга істнавала „Наша Доля": з агульнага ліку шасьцёх нумароў пяць былі сканфіскаваны, газэта зачынена прыгаворам суда, адказны рэдактар засуджаны на год крэпасьці. Але пачатак быў ужо зроблены, шлях працярэблены; — і вось, сьледам за „Нашай Доляй" выходзе „Наша Ніва", закладаюцца беларускія журналы, узгадоўваюцца газэтныя работнікі, расьце лічба беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. У працягу двадцацёх гадоў з першае нясьмелае спробы вырастае паважная беларуская прэса — з сотняй назоваў часопісяў markнага тыпу і зьместу.

У жыцьці кожнага народу прэса іграе вялізарную ролю. Але ў беларусаў яна мае асаблівую вагу і значэньне: бо-ж доўгі час яна зьяўлялася бадай *адзінай праявай заглушанага чужацкім ярмом жыцьця*. Прэса была ў нас тэй *кузьняй*, у якой каваліся нашы *адраджэнскія ідэалы*, і ў гэтай працы магла прымаць учасьце беларуская сялянская і работніцкая маса, пасылаючы ў рэдакцыю свае карэспандэнцыі, адгукаючыся на ўсе выпадкі, на высказаныя ў газэце думкі і лёзунгі.

Але цярністы той шлях, па якім ідзе наша прэса,—і асабліва цярністым стаўся ён за апошнія гады. Пад той час, як у самадзяржаўнай Расеі *за дзевяць гадоў* было ўсяго *сем канфіскацыяў* (пяць „Нашае Долі" і дзьве „Нашае Нівы"), ды ўсяго *два судовыя прысуды*—на 2 месяцы і на 1 год крэпасьці, — цяпер канфіскацыі налічваюцца *дзесяткамі кожын год*, а за газэтныя стацьці рэдактароў засуджаюць *у катаргу*, быццам нейкіх ліхадзеяў...... А адначасна, як паганая скула на целе беларускага народу, вырастае ў Заходняй Беларусі прадажная—бяз'ідэйная прэса ў беларускай мове, каб атручаваць душы нашага народу і засланяць яму правільны шлях да лепшае будучыны—шлях барацьбы за *нацыянальную, палітычную і сацыяльную волю*.

Але нікія рэпрэсіі, ніякія кары ня могуць прымусіць ідэйную беларускую прэсу змоўкнуць, ці вырачыся сваіх сьветлых ідэалаў. Наша ідэйная прэса—гэта-ж голас самога народу, голас нашых сялян і работнікаў, магутны *голас міліёнаў*. І сяньня, у двадцатыя ўгодкі нарадзін першае беларускае часопісі, мы, насьледнікі ідэалаў „Нашае Долі", можам з усей цьвёрдасьцяй заявіць, што *голас гэты ніколі ня змоўкне*!

## У Польшчы.

### Што сказаў п. Бартэль урадоўцам і чыгуншчыкам.

Як мы ўжо пісалі, да прэм. Бартля зьвярнуліся дзьве дэлегацыі—ад дзяржаўных працаўнікоў і чыгуншчыкаў—з дамаганьнем павялічэньня платы. Прэм'ер дэлегацыі ўрадоўцаў папросту ня прыняў. На дамаганьне ж чыгуншчыкаў прэм'ер адказаў вялікай прамовай. Аб якойсь запраўднай паправе быту дзяржаўных працаўнікоў у сучасны мамэнт ня можа быць навет мовы. Стан польскага скарбу — вельмі цяжкі і дрэнны. У касе скарбу няма грошаў. Трэба плаціць загранічныя даўгі. А побач расьце дарагоўля, якую выклікалі абшарнікі. Гэтыя абшарнікі, атрымаўшы скарбовыя крэдыты на вываз збожа, падбілі цэны ў краі—так, што ўрэшце спынілі вываз, бо ў Польшчы вэнгерскае збожа цяпер — таньнейшае, як краёвае. Палажыўшы ўрадавую дапамогу на вываз у кішані, абшарнікі не сьпяшаюцца малаціць хлеб, чакаючы далейшай падвышкі цэнаў. Дык вось прэм'ер вельмі абураўся на гэтых абшарнікаў, пагражаючы ім... спыненьнем далейшых крэдытаў ды спагонам падаткаў! Гэткім чынам урад змусіць абшарнікаў да выпуску хлеба на краёвы рынак. Тады пачне спадаць і дарагоўля, чаго можна спадзявацца... праз **два гады**! А тады ня трэба будзе ўжо і падвышкі пэнсіяў урадоўцам і чыгуншчыкам.

Дэлегат Казлоўскі сказаў, што дзяржаўныя працаўнікі хочуць паправы быту, каб маглі спакойна працаваць.

П. прэм'ер абурыўся: „Можаце сабе працаваць і неспакойна, а калі грошаў няма, дык і ня дам".

У гэтай прамове прэм'ера найцікаўней ягоная заява, што стан скарбу — дрэнны, што чыгункі не даюць даходаў і г. д. Але вось у Сойме, у сваім экспозэ, той самы прэм'ер выхваляў і стан польскага скарбу і даходнасьць чыгунак, падчырківаючы, што ўсё гэта зрабіў у кароткім часе—цудоўны ўрад п. Бартля!..

### Скандал з польскай „далярувкай"...

Галоўныя выйгрышы—40.000 і 8.000 даляраў — нейкім „цудам" выйгралі дзьве арганізацыі дзяржаўных урадоўцаў, вельмі блізкія да „зажонду" гэтай самай „далярувкі і да міністэрства скарбу... Гэта выклікала сярод масаў, купіўшых выйгрышныя білеты польскага скарбу, сьпярша заздроснае зьдзіўленьне перад гэткім цудоўным „шчасьцем", а пасьля — вялізарнае абурэньне на „слаўныя ліндаўскія традыцыі" ў вышэйшых скарбовых установах дзяржавы... Польскія кракаўскія газэты дык ужо адкрыта пішуць, што ў гэтае „шчасьце", ці „лёс" пры разыгрываньні даляроўкі ніхто ўжо ў краі ані тым больш заграніцай — ня верыць...—У цэлым радзе стацей газэты пішуць, што гэткія, мякка кажучы, „махінацыі" папросту падрываюць апошняе даверые да польскай Дзяржавы"... Ці-ж ня дзіўна, што ў папярэднія гады найбуйнейшыя выйгрышы даляровак неяк „ня выцягнуліся", а сёлета іх выцягнулі—„свае"?!

Хто-ж пасьля гэтага будзе купляць білеты „варшаўскай лётэрыі"?!

## Таварышы работнікі і работніцы!

Набліжаецца мамэнт выбараў нашых прадстаўнікоў у Раду Касы Хворых у Вільні,—мамэнт вельмі важны для кожнага работніка і работніцы, якія зьяўляюцца сябрамі Касы Хворых.

Каса Хворых, як кожнаму ведама,—гэта ўстанова, у якой кожын работнік і кожная работніца застрахаваны на выпадак хваробы ці калецтва ў фабрыцы. Там-жа за нашы складкі застрахаваны і нашыя сем'і. Дык ясна, насколькі важна для нас мець у Касе Хворых верных сваіх заступнікаў і абаронцаў. Але ў Касе Хворых маюць голас і нашы „хлебадаўцы", што ласкава пазваляюць нам за марную плату рабіць на сябе. Яны так сама плацяць частку страхавое складкі і пасылаюць сваіх прадстаўнікоў у Раду Касы.

Ясна, што на груньце Касы Хворых сустракаюцца інтарэсы работнікаў і інтарэсы капіталістаў. Капіталісты, ведама-ж, стараюцца і тут перадусім бараніць свае кішані і абмяжоўваць тую карысьць, якую працоўныя могуць мець ад Касы Хворых. Дык буржуазія і услугуючыя ей партыі хочуць захапіць у Радзе Касы чым-больш мейсц, ды з гэтай мэтай разьбіваюць работніцкую еднасьць у выбарнай барацьбе.

Мы, работнікі і работніцы, працуючыя фізычна і ўмыслова, павінны на выбарах выступіць дружна, як адна сям'я, і **падаць свае галасы за кандыдатаў блёку працоўных усіх нацыянальнасьцяў**— Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, ды жыдоўскай і польскай лявіцы. **Сьпісак блёку № 6.** За гэты нумар і павінны галасаваць усе работнікі і работніцы, застрахаваныя ў Касе Хворых, бо толькі кандыдаты блёку заслугуюць на даверые працоўных, бо толькі яны йдуць адзіным фронтам усіх працоўных.

Таварышы работнікі і работніцы! Памятайце, што ад нас самых залежыць паляпшэньне вашага быту — павялічэньне тэй карысьці, якую можа і павінна даваць за нашы крывава запрацаваныя грошы Каса Хворых. Дык усе, як адзін чалавек, нясеце ў выбарныя ўрны картачкі з **нумарам № 6**!

**Камітэт Віленскае Арганізацыі Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.**

**Увага**. Права падаць голас на выбарах мае кожын работнік і работніца, якія запісаны ў Касу Хворых **перад 4 ліпня** (юля) сёлетняга году.

## Заграніцай.

### Плебісцыт аб зямлі ў Эстоніі.

Сацыял-дэмакратычная фракцыя ў Эстонскім Сойме зьбірае сярод паслоў подпісы пад прапазіцыяй, каб быў зроблены плебісцыт (усенароднае галасаваньне) ў справе: ці плаціць абшарнікам за адабраную ў іх зямлю, ці не?

Трэба думаць, што эстонскія сяляне і работнікі рашуча выступяць проці ўсякае сплаты паразітам, якія ў працягу сталецьцяў смакталі народную кроў.

### Новы замах на Мусоліні.

11 верасьня ў Рыме нейкі хлапец муляр кінуў бомбу ў аўтамабіль, у якім ехаў Мусоліні. Але бомба адскочыла ад вакна аўтамабіля і выбухнула, як аўтамабіль ужо ад'ехаў. Мусоліні астаўся цэлы. Замаховец—анархіст і прыехаў у той жа дзень з Марсэлі (з Францыі).

### Падзеі ў Грэцыі.

Толькі што зьляцеў дыктатар Пангалес, і ўлада апынулася ў руках ген. Кандыліса, а вось і проці гэтага валадара падняўся новы ваенны бунт.

Бунт, аднак, быў ураз-жа затушаны, а павадыр яго, генарал Дэртыліс, узяты ў палон.

### Што робіцца ў Кітаі.

Пакуль у Жэнэве ідуць пекныя размовы аб „ўтрыманьні вечнага міру“, Англія фактычна ўжо вядзе вайну з Кітаем. Англійскія ваенныя караблі ўжо высланы ў кітайскія воды дый бамбардуюць месты, забіваючы тысячамі людзей, вінаватых толькі тым, што яны хочуць самі гаспадарыць у сваей адвечнай дзяржаве. Крывадушнасьць „Лігі Народаў“ найляпей раскрываецца ў гэтым параўнаньні жэнэўскіх слоў з кітайскімі фактамі...

### „Марская бітва“ пад Ханькоў.

Захоплены чырвонай кантонскай арміяй Ханькоў пачалі абстрэліваць ня толькі англійскія, але, як пішуць англійскія газэты, — і францускія ды амэрыканскія ваенныя караблі... Кітайцы бароняць сваю зямлю з усіх сілаў. З цэлага раду местаў англійцы ўцякаюць на сваі караблі, бо абурэньне народу процi іх—страшэннае.

### Чычэрын адлажыў падарожу.

Чычэрын, які меўся ехаць у дыпляматычную падарожу па Эўропе, адлажыў яе—з прычыны кітайскіх здарэньняў. Ен заявіў, што ССРР будзе бараніць сваe правы, забясьпечаныя ўмовай 1924 г. з Кітаем. Ня можа радавы ўрад спакойна глядзець і на фактычна пачаўшуюся ўжо інтэрвэнцыю заходніх дзяржаў у Кітай..

## Ліга Народаў.

### Прыняцьце Нямеччыны.

На паседжаньні Агульнага Збору Лігі Нямеччына аднагалосна прынята ў склад Лігі Народаў — на сталае мейсца ў яе Радзе, як вялікая дзяржава.

Калі нямецкая дэлегацыя зьявілася ў салі, яе прывіталі гучнымі воплескамі, а калі былі абвешчаны рэзультаты выбараў, дык прадстаўніком Нямеччыны ўся Ліга зрабіла бурную авацыю. Галасьней за ўсіх, як пішуць газэты, пляскаў Брыян.

Польскага прадстаўніка мін. Залескага быццам ня было ў той час у салі...

З прывітальнай прамовай зьвярнуўся да нямецкай дэлегацыі старшыня Збору Нінчыч, сказаўшы паміж іншым, што—„усе народы пачуюць вялікую радасьць, што Нямеччына пачне супрацоўнічаць з імі ў Лізе ў справе ўмацаваньня агульнага міру“...

На прывітаньне старшыні адказаў панямецку мін. Штрэзэман. Ен падчыркнуў, што аж 7 гадоў прайшло, пакуль зрабіўся магчымым уваход Нямеччыны ў Лігу. „Ліга, казаў ён, павінна стварыць такія варункі для народаў, у якіх яны маглі б мірна змагацца ды канкураваць між сабой, спаўняючы задачы, пастаўленыя ім лёсам. Уваход у Лігу не павінен змушаць народы да адрачэньня ад гэтых сваіх нацыянальных задачаў... Што Нямеччына хоча міру і мірнага змаганьня, ясна ўжо з таго, што гэта-ж яна дала пачын Лёкарнскім Трактатам“.

Пасьля красамоўна вітаў уваход Нямеччыны Брыян, які сказаў, што больш не павінна быць вайны—крывавых спосабаў вырашаць споры між народамі (відаць, — апрача вайны з народамі ў францускіх калёніях!), што ўсе, а Нямеччына перадусім, павінны верыць у добрую волю Францыі (трымаючай сотні тысяч войска на нямецкай зямлі...).

### Яшчэ ахвотнік да сталага мейсца ў Радзе.

Прэзыдэнт рэспублікі Кубы даручыў свайму дэлегату ў Жэнэве рашуча дамагацца сталага мейсца ў Радзе Лігі... Хто-ж мае забараніць і Кубе лічыць сябе, як хто іншы, — „велькім моцарствам“?!

### „Замах“ на швайцарскага дэлегата.

У салі паседжаньняў Агульнага Збору Лігі на швайцарскага дэлегата п. Мотту кінуўся нейкі Саламон Грынберг, але ўчас быў схоплены іншымі дэлегатамі. Ен заявіў, што хацеў памсьціцца за забойства на швайцарскай тэрыторыі пасла ССРР Вороўскага. Грынбэрг, які ня меў пры сабе ніякага аружжа, дадаў, што маніўся ўдэрыць п. Мотту якім-небудь цяжкім прадметам са сталоў у салі.

### Рэальныя рэзультаты ўваходу Нямеччыны ў Лігу.

Як ведама, толькі з уваходам Нямеччыны ў склад Лігі ўвайшлі ў сілу Лёкарнскія Трактаты, забясьпечываючыя граніцы Францыі і Бэльгіі з Нямеччынай.

Гэта адразу зрабіла магчымым для Францыі значна зьменшыць сваю армію. Дык на другі-ж дзень пасьля прыняцьця Нямеччыны ў Лігу прэзыдэнт Думэрг падпісаў дэкрэт аб вельмі значных рэдукцыях у арміі і флёце.

## З Сойму.

Скліканьне Сойму мае наступіць не 16, як плянавалі раней, але—20 верасьня. Сойм мае заняцца толькі „ўхваленьнем“ так званага „провізорнага“ бюджэту на IV квартал.

Справа ў тым, што вялізарныя дадаткі афіцэрам арміі і плянаваныя ўрадам — пад нацiскам скрыўджаных дзяржаўных урадоўцаў—„кватэрныя“ прыбаўкі для апошніх вельмі значна павялічылі выдатковую частку бюджэту. Дык трэба знайсьці для гэтых новых падаткаў адпаведныя, як кажуць, „крыніцы пакрыцьця“ (папросту—даходы). А ведама, што даходы польскі скарб умее вышуківаць толькі шляхам спагону новых падаткаў. Але на гэта якраз урад ня мае паўнамоцтваў. Дык вось і здарылася патрэба склікаць дзеля гэтага Сойм...

Атрымаўшы ад Сому—пад пагрозай „бата“—дазвол на новыя падаткі, урад маніцца распусьціць ізноў Сойм да 20 кастрычніка, калі Сойм мае заняцца ўжо бюджэтам на 1927 год. Газэты пішуць, што аб бюджэце на 1927 год ідуць гарачыя спрэчкі ў лоне самога ўраду, бо ваенны міністар трэбуе вялікіх дадатковых асыгновак на армію, а прэм'ер з міністрам фінансаў спраціўляюцца, бо няма грошаў... Дык спадзяюцца вельмі бурнай сэсіі Сойму.

## З жыцьця „Грамады“.

### Павятовыя арганізацыі Грамады.

У Павятовых Камітэтах Бел. Сял.-Раб, Грамады можна атрымліваць усе партыйныя друкі і туды трэба зьвяртацца ў справах арганізацыйных і ўзносу грашавых складак даннага павету.

**Дзісьненскі** Павятовы Камітэт месьціцца ў м. Глыбокім, Ломжынская вул., д. № 54; працуе што-дня, за выняткам аўторкаў і субот, ад 9 да 15 гадз.

**Вялейскі** Павятовы Камітэт Грамады месьціцца ў Вялейцы, вул. Д.-Бярнацкага, д. № 2 (процi парку); працуе што-дня ад 10 да 14 гадз. у будні, а ў сьвяты ад 10 да 18 гадз.

**Пастаўскі** Павятовы Камітэт Грамады месьціцца ў м. Паставы, Дварцовая вул. д. № 10; працуе што-дня.

### З жыцьця Гурткоў.

У ночы з 18-га на 19-га жніўня якісь правакатар вывесіў у в. Юхновічы, Слонімскага пав., чырвоны сьцяг; зараз—паліцыя, вобыск у Гуртку Бел. Сял.-Раб. Грамады. Нічога не знайшлі, аднак напісалі некалькі пратаколаў на старшыню Гуртка, ды некаторых сяброў, каб запужаць; але народ там ня трусьлівы, і яшчэ шчыльнейшымі радамі йдуць у Грамаду.

✕ У Жухавіцкай гм., Стаўпецкага пав., у нядзелю, 22-га жніўня, адбыўся з дазволу старасты агульны гмінны сход тамашніх сяброў Грамады. Хоць панскі падлізьнік канавал Сымон Хмель страшыў грамадзістаў арыштам, але сяляне дружна прыйшлі на сход. Пасьля прамоў на сходзе настрой сялян вельмі падняўся і тут-жа запісаліся ў Грамаду 38 асоб.

✕ 24-га жніўня ў в. Заельніках, Хаценчыцкай гм., Вялейскага пав., у хаце Вікт. Шарамэта з дазволу старасты адбыўся сход сялян дзеля з'арганізаваньня Гуртка Грамады. Ня гледзячы на прысутнасьць паліцы, настрой быў бадзёрны; у гурток запісаліся адразу 70 асоб. Сход пастанавіў не зьвяртаць увагі на дэфэнзыўную брахню Паўлюкевіча ў адозьве яго „рады“.

✕ 15-га жніўня г. г. ў в. Альшанцы, Беластоцкага пав., адбыўся—з дазволу старасты—сход тамтэйшых сяброў Грамады. У часе сходу ў вёсцы быў паліцыянт, але ў хату, дзе быў сход, не пайшоў. Пасьля сходу ён трэбаваў сьпіску сяброў, але не далі,—з тым і пайшоў. Гэты сход вельмі падняў дух сялян і цяпер грамадой ідуць у Грамаду. Назаўтра да сэкрэтара Грамады Аляк. Кісяля прыехаў камандант з паліцыянтам і, паставіўшы гарэлкі, нагаварвалі, каб ён кінуў Грамаду, і абяцалі „пасаду“, але сэкрэтар ад гарэлкі і ад „пасады“ адмовіўся.

### Закладзіны Гуртка Бел. Сял.-Раб. Грамады.

(Сіняўская Слабада, Стаўпецкага пав.).

Толькі і гутаркі было апошнімі часамі ў нашай вёсцы аб тым, каб залажыць Гурток Грамады. Мабілізаваліся дзеля гэтага маладыя і здольныя сілы вёскі, але і рэакцыя не драмала. У змаганьні адразу стала бачна, хто стаіць на шляху сялян і работнікаў і ўсемі сіламі хоча перашкодзіць да з'арганізаваньня працоўных масаў у барацьбе за лепшую будучыню.

„Камуністы, выўратоўцы! Бата ім трэба і без караля не абойдзецца!“—як гад, сыкаў бацька нашага вучыцеля, а за ім і сам вучыцель панок Цатэвіч.

За славамі ды пагрозамі прыйшоў і сам „бат“. Вучыцель, пэпээсавец, бядуючы над сялянамі, са сьлязмі ў вачох казаў: „Якую-ж апінію магу цяпер я даць аб тых людзёх? (хіба гэта ляжыць на яго абавязку?)— і, каб паправіць яе, была вызвана паліцыя на чале з кіраўніком сьледчае экспазытуры ў Стоўпцах, якая і пачала „баданьне“, пад каторае наш млынар Дзядзюшка вельмі ўслужліва ахвяраваў у сваім доме „зусім асобны пакоік“.

Ня гледзячы на спэцыфічна польскае „баданьне“, у нядзелю 22-га жніўня адбыліся закладзіны гуртка, на каторыя сабралася амаль-што ня ўся вёска і... камандант з пастарунковым. Не хацелі спачатку некаторыя пісацца, вельмі слушна кажучы: „Калі паліцыя прыйшла запісвацца ў сябры грамады, то нам тут няма мейсца!“, — але па вытлумачэньню ім, якую ролю адыгрывае на нашым сабраньні камандант, навет 60-гадовыя дзяды запісваліся і ўцягвалі другіх. Гэткім чынам запісалася больш за 50 чалавек.

Няхай ведаюць паны і падпанкі, што прайшла пара „безадказнага быдла“ і што ніякія бáданьні з „рукоприкладством“ ня змогуць супыніць нас на шляху да вызваленьня працоўных!..

„Сіняўскі“.

## „Польскі Танжэр“.

Крывавая „культурна-гаспадарчая“ праца Гішпаніі ў яе афрыканскіх калёніях (Марокко) ў працягу дзесяткоў гадоў, а пасьля 4-летняя бясслаўная вайна ў Марокко найлепш выявілі ўсё дзяржаўнае банкруцтва гэтае дзяржавы. Дый ня дзіва: недарма-ж столькі вякоў панавалі ў Гішпаніі паны-шляхта ды ксяндзы — з іх „ідэаламі“ дармаедзва, гультайства ды вызыску чужой працы...

Але гэта зусім не перашкодзіла сучаснай Гішпаніі лічыць сябе—„велькім моцарствам“, дый рашуча дамагацца ад Лігі Народаў—сталага мейсца ў яе Радзе нароўні з вялікімі дзяржавамі... Гішпанскі Пілсудскі—Прыма-дэ-Рывэра заявіў аб выхадзе Гішпаніі з Лігі, калі яе жаданьне ня будзе споўнена. Але спрытны гішпанскі дыктатар, шантажуючы кіраўнікоў Лігі сваей пагрозай, адначасна запрапанаваў ім—замест „ганаровага прызнаньня“ Гішпаніі мейсца „велькего моцарства“ ў Лізе — даць Гішпаніі „адшкадаваньне“: каб за „абразу моцарствовага гонару“ Гішпаніі дзяржавы заплацілі ей—Танжэрам (крэпасьць на мароккскім узьбярэжжы Сярoдземнага мора).

Урадавая гішпанская прэса гэтак сцьвярджае патрэбнасьць Танжэру для Гішпаніі: „Вечны паўстанчы рух на рыфскай тэрыторыі (Гішпанскае Марокко) заўсёды пагражае міру ў нашай Афрыцы. Дык—ці-ж справядліва, каб Гішпанія ахвярна працавала ў Лізе на карысьць агульна-эўрапэйскага міру, ня маючы адпаведнага становішча ў Лізе, і адначасна ўсьцяж пралівала кроў сваіх жаўнераў (аб чужой крыві—крыві „крэсавых меншасьцяў“—рыфэнаў ды кабілаў—тутака, зразумела, не гаворыцца!) у Афрыцы, бясспынна душачы паўстаньні, што плывуць шырокім шляхам — з Танжэру“...

Што-ж гэта за Танжэр, з якога на гішпанскія паўдзённыя „крэсы“ плывуць такія шкодныя для гішпанскага панаваньня ў Марокко хвалі і ўплывы, такая „антыпаньствовая агітацыя“, такія „выўротовыя ідэі“, такія „дывэрсыйныя замахі“ і т. д. і т. д.?

Коратка адкажам на гэтае пытаньне. Гэты Танжэр зьяўляецца такім шкодным для гішпанскага панаваньня ў Афрыцы толькі і выключна дзеля таго, што ў ім пануе прававы парадак, загарантаваны ня толькі міжнародава-забясьпечанай канстытуцыяй, але і міжнародавай адміністрацыяй гэтага міжнародавага абшару з местам Танжэрам, як цэнтрам. З гэтага ўжо зусім ясна, якую запраўды-ж „правакацыйную ролю“ йграе міжнародавы Танжэр, дзе пануе канстытуцыя, парадак, усялякія правы грамадзян, загарантаваныя канфэрэнцыямі ды канвэнцыямі,—у агульным жыцьці гішпанскага Марокко, дзе пануюць ксяндзоўска-паліцэйская „крэсавая“ гішпанская „культура“ і „паньствовасьць“—з яе „ваяводамі“ ды „старостамі“, маючымі за заданьне забясьпечыць аружнай сілай панаваньне ў чужым—забраным — краі яго „прыраджоных валадароў“—гішпанцаў...

Дык вось, запраўды з нясноснага для абодвух бакоў палажэньня ёсьць толькі два выхады: або выгнаць гішпанцаў з краю, каб яны не правакавалі сваей крывавай і нікому абсалютна непатрэбнай на сьвеце „культурай“ ды „паньствовасьцяй“ да пастаянных паўстаньняў адвечнае насяленьне краю, жадаючае адно толькі працаваць на ўласнай зямлі ды на волі пад сонцам: або, наадварот,—пакінуўшы ўсё у краі на волю і ласку гэтай жываедзка-зьвярынай „культуры“, аддаць тым-жа гішпанцам і апошняе вакно ў тэй турме, у якую яны ператварылі край, вакно, з якога плывуць у Марокко „правакуючыя“ да паўстаньняў ідэі волі, парадку і права.

Сьпярша ўся сіла шляхотных, воля-любных мароккскіх народаў кіравалася да вырашэньня першага заданьня.. Але дадзеная гішпанцам дапамога „дэмакратычнай“ Францыі скасавала ўсе рэзультаты пабед мароккскага насяленьня, змарнавала ўсе яго ахвяры... Тады цяпер з боку „перамогшай Гішпаніі зусім лёгічна дамагацца ад падтрымаўшых Гішпанію вялікіх дзяржаў „аканчальнага вырашэньня“ яе мароккскага пытаньня —у другім напрамку: у напрамку „аканчальнага“ паняволеньня насяленьня „паўдзённых ваяводзтваў“ Гішпаніі—так, каб яно навет ня чула нічога аб тым, што на сьвеце істнуюць нейкія там канстытуцыі, ды правы, ці воля ды парадак — апрача тых, якія заводзе ў Марокко гішпанскі пастарунковы, ці асаднік...

---

Хто-б мог падумаць, што вышэйнапісанае мае якое-небудзь адношаньне да Польшчы? Што найбольш,—дык так сабе сьмешнае, пікантнае параўнаньне... Але, калі ўсё гэта было ўжо напісана, аўтар гэтых радкоў прачытаў у вельмі ўплывовай газэце „Кур. Варшавскі“ артыкул прафэсара Комарніцкага пад загалоўкам „Польскі Танжэр“, у якім аўтар піша літэральна вось што:

„Уваход Нямеччыны ў Раду Лігі стварае зусім новае палітычнае і юрыдычнае палажэньне для Польшчы. Трактат аб ахове нацыянальных меншасьцяў (знаменіты па сваей „нявыканальнасьці“, так званы „дадатковы“ Вэрсальскі Трактат 28 чэрвеня, які гарантуе—на паперы—правы

# Пэпэсы—агенты дэфэнзывы. Махай не пярэчыць!

Што ППС („Polska Partja Socjalistyczna“) працуе ў Заходняй Беларусі, як „ідэйная дэфэнзыва“, стараючыся разьбіваць усялякую працу другіх, калі тая праца няміла польскай „паньствовасьці“,—гэта ведама ўжо даўно. Але вось з соймавае трыбуны было кінута абвіненьне, што ў гэтай партыі працуюць ня толькі „ідэйныя“ дэфэнзыўшчыкі, але проста платныя агенты дэфэнзывы, як да прыкладу ведамы ў Баранавіцкім павеце Махай.

Ня гледзячы на робленае пэпэсамі „абурэньне“, абвіненьне гэтае аказалася бясспрэчна абаснованым. **І сам Махай не адважыўся навет запярэчыць гэтаму**, а толькі ў сваім пісьме, надрукованым у расейскай газэце пэпэсаў „Красное Знамя“, аблаяў „абразіўшага“ яго гэным абвіненьнем пасла Рагулю.

# ХРОНІКА.

**Суд над беларусамі.** 10/IX с. г. ў Віленскім Акружным Судзе разглядалася справа жыхароў Гарадоцкай гм., Маладэчанскага павету Дайноўскага Вінцука і Васілеўскага Сьцяпана, абвінавачаных з 102 арт. ч. I, К. К.

Першага суд прыгаварыў на год цяжкага вастрогу, з пазбаўленьнем правоў, другі—апраўданы.

**Дэманстрацыя работніцкае моладзі ў Вільні.** 5-га верасьня г. г. у міжнародны юнацкі дзень, у Вільні на Пагулянцы адбылася дэманстрацыя, на якой прыймалі ўчасьце да 400 маладых рабочых і работніц. Прайшоўшы некалькі вуліц з чырвоным сьцягам і пяяньнем „Інтэрнацыяналу“ і „Ад веку мы спалі“, дэманстранты разыйшліся. Прыбыўшая конная і пешая паліцыя дэманстрантаў ужо не застала.

**Падзяка.** Урад Бел. Навук. Т-ва гэтым дзякуе за зложаныя для музэю ім. Ів. Луцкевіча ахвяры: 1) **Я. Бэкішу** ў Вільні — за 100 польск. і расейскіх манэт, мяшэчак заграничных і 2 мэдальёны ў памяць люблінскае ўніі; 2) **І. Дварчаніну** ў Вільні — за нямецкую кніжку; 3) **Э. Будзьцы** ў Вільні—за архіўныя матэр'ялы Бел. Муз.-Драм. Кружка.

**Прыпыненьне высяленьня чужаземцаў.** Міністар унутр. спраў выдаў загад, каб мясцовыя ўлады ўстрымаліся з высяленьнем чужаземцаў з Польшчы ў Радавую Расею — да 31 студня с. году. Ведама, што ад дня новага году ўваходзіць у сілу новы закон аб чужаземцах.—Тады, відаць, і—пачнецца.

**„Культурныя“ зладзеі перад судом.** Сяўцы польскае культуры на „Крэсах“, вышэйшыя ўрадоўцы віленскага кураторыуму Пожэрскі і Рахальскі, заселі ў аўторак на лаве падсудных у віленскім акружным судзе—за звычайнае зладзейства. Пожэрскі разам з другім „культуртрэгерам“—Якубоўскім, які ўцёк у Літву, — фальшавалі „лісты платы“ і бралі грошы на аплату няістнуючых вучыцялёў, ці прытрымлівалі плату істнуючым, фальшуючы іх подпісы аб атрыманьні грошы. Начальнік-жа іх, Рахальскі, выявіў пры гэтым „умысную бясчыннасьць улады“, хоць ведаў аб зладзействах.

**Афіцыяльны курс грошы на 14-га верасьня.** Даляр—8 зл. 94 гр. Залаты рубель — 4 зл. 80 гр.

14. IX. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,90. Зал. руб. 4,40. Чырвонец 44.

меншасьцяў у Польшчы) мае стацца ў руках Нямеччыны баявой прыладай для разьбіцьця Польскай Дзяржавы і сталага выклікаsuccession забурэньняў на Усходзе Эўропы. Дзеля таго, уваход Нямеччыны ў Лігу, як прынцыповая зьмена палажэньня, дазваляе нам распачаць дыпляматычную кампанію ў напрамку скасаваньня гэтага Трактату. Гэта — пытаньне першараднага дзяржаўнага значэньня для нас; гэта-ж наш, каб выразіцца па аналёгіі,—„Польскі Танжэр“...

„Геніяльную“ і „шляхотную“ думку польскага прафэсара падхапіла, зразумела, першым чынам эндэцкая, а за ёй амаль-што ня ўся польская прэса... Як сьпярша амаль ня ўсё „паньствовае натхненьне“ ў Польшчу плыло з фашыстаўскай Італіі, так цяпер зоркі дзяржаўнага розуму спадаюць у польскія паньствовыя мазгі з роднай духова галавы гішпанскага дыктатара дэ-Рывэры...

Эндэцкая „Газэта Варш. Поран.“ піша: „Польшча, дамагаючыся ў сучасны мамэнт скасаваньня Трактату аб ахове меншасьцяў, выступіла б у абарону ня толькі сваіх бясспрэчных сувэрэнных правоў, але таксама і інтарэсаў міру ў Сярэдняй Эўропе“...

Іншыя газэты, як „Новы Кур. Польскі“ (афіцыоз сучаснага ўраду!) разьвілі далей і глыбей доказы на карысьць аддачы назад Польшчы „Польскага Танжэру“, ці — скасасаньня Трактату, які гарантуе правы меншасьцяў у Польшчы. Усё гэта настолькі цікаўна, што разгляду гэтых доказаў трэба ахвяраваць далейшы працяг нашага агляду. **Наглядчык.**

# З жыцьця Горадні.

× **„Дзень моладзі“.** У суботу 4-га верасьня г. г. рабочая моладзь наладзіла спэктакль у салі Рабочага Клюбу.

Пастаўлена была беларуская п'еса „Каліс“, прадэклямавалі некалькі вершаў у беларускай, польскай, расейскай і жыдоўскай мовах.

Трэ адзначыць маладыя работніцкія сілы, якія выканалі сваі ролі вельмі добра. Трэ ім толькі пажадаць, каб і надалей энэргічна працавалі і памяталі дзень свайго сьвята моладзі.

× **Арышты.** У зьвязку з сьвяткаваньнем дня моладзі 5-га верасьня с. г. былі зроблены вобыскі і арышты. Шукалі, ведама, „камуністычнай“ і „антыпаньствовай“ літэратуры.

Нічога ні ў кога ня знойдзена, але-ж былі арыштаваны: Лібэс, Горніцкі, Александровіч, Розэн, Шафранскі (фэльчар), Сьвечнік, Давідовіч, Фарбэр, Вайнштэйн, Стрэжко, Рабіновіч, Левін, (купец дроў) Атлас Малка, Лёлька і Троп Юдыта.

Цікава, што пратрымалі іх адзін дзень і звольнілі 6./IX. раніцаю. Дык стаіць пытаньне: за-вошта?! Але-ж адказ адзін: работнікам замест працы даюць „летніска“—вастрог.

Вобыскі і арышты адбыліся пасьля спэктаклю, пастаўленага моладзьдзю ў Рабочым Клюбе.

**Пр—ны.**

# Карэспандэнцыі.

## Гаспадаруюць, як хочуць.

(Браслаўшчына).

Па мястачковым полі м. Казян праходзяць тры дарогі, — агульная даўжыня іх 6 вёрст. Да гэтага году сяляне на свой кошт папраўлялі гэтыя дарогі і масткі на іх, нягледзячы на тое, што плацілі дарожны падатак. У гэтым 1926 годзе солтыс Т. Аляхновіч сказаў нам, што сёлета 2 дарогі будзе папраўляць казна (нашымі мазалямі!)—затым, што іх упісалі ў павятовыя, а трэйцюю — гміннуюю — мы мусім самі паправіць. Усе сяляне вельмі ўцешыліся і хутка паправілі гэную гмінную дарогу.

Аж ня тут-тое было! Як раз самым гнаявозам Аляхновіч прынёс ад войта Богінскай гміны Байнаровіча загад, каб усе, хто мае каня (хоць і без зямлі), вывязьлі на павятовыя дарогі па 3 куб. мэтры жвіру ад кожнага каня. Вось табе і павятовыя!—Байнаровіч сказаў солтыту: хто не паедзе, каб запісаў яго прозьвішча і ён яго навучыць, як зачыншчыка бунтаўшчыка. Сталі вазіць жвір 3 грамады, — падвод каля 600. Дарогі без парадку засыпалі горбамі жвіру; — і цяпер яшчэ з возам разьмінуцца ня можна, бо горбы ляжаць не раскапаныя.

Войт загадаў жвір браць з сялянскіх палосак.—Сапсавалі многа ярыны і бульбы. Але загады свае войт пасьля ад салтысаў паадбіраў, — мусіць, учуў нешта нядобрае. Цяпер ізноў солтыс аб'явіў, што, як скончацца палявыя работы, трэба на гэныя самыя дарогі вывязьці па 3 куб. мэтры ад каня і жвір браць з сялянскіх палосак.

Ці гэтак робіцца па ўсёй Польшчы, ці толькі ў Богінскай гміне? Няўжо-ж гміна за некалькі гадоў не сабрала дарожных грошы, што мы плацім, каб заплаціць хоць бедаком за палоскі зямлі, што пакапалі, бяручы жвір, і тым беззямельным людзям, якія маюць коні і вазілі жвір?!

**Вазіўшы.**

## Нашы радныя.

(Залесьсе, Дзісьненскага пав.).

У нашай гміне калісь-то, як кажуць людзі, за цара Батора, выбіралася гмінная рада. „Гонар“ вялікі, і дзеля гэтага кожны радны стараецца ўтрымацца на сваім „stanowisku“. А каб утрымацца, то трэба так „радзіць“, каб дагадзіць усім панкам і паўпанкам. Кожнае слаўцо апошніх яны, як верныя халопы, хапаюць на ляту і кожнае іх жаданьне скваплівa выконываюць.

„Бедны“ пан К. Корсак падаў заяву аб тым, каб адлажылі гмінныя падаткі да восені. І што-ж? Ня толькі адлажылі да восені, але і ад працэнцікаў адмовіліся! А з нашага брата-селяніна цягнуць апошні грошык. Напрыклад, не даплаціў 50 гр., глядзіш—на двор і шусьць сэквэстратар,—ну і аблупіць, як ліпку. Бярэць злоты экзэкуцыйных, ды і ў дабавак злупіць працэньцікі! А ня маеш заплаціць, то цягне на воз апошнюю падушку. На гэтым зарабляюць нашы „культурнікі“—асаднікі. Як ваўкі, прыслухваюцца яны, дзе круціцца сэквэстратар, і зараз-жа стараюцца за бязцэнак адкупіць забраные рэчы.

У залесскіх стараверaў забралі апошнія пілы і самавары. Ацанілі танна: піла—10 зл., самавар—27 зл. Вядома ж, што купілі асаднікі. Тое ж, што непатрэбна ім,—прывозіцца назад, бо наш народ устыдаецца крыўдзіць свайго суседа і на яго крыўдзе будаваць сваё жыцьцё. **Лясны.**

## „Усюды культура“.

(З Дзісеншчыны).

Пра „нашую“ культуру гэтак шмат пішацца, што ўжо шкода і паперы. Але здараюцца выпадкі, каля якіх ня можна прайсьці моўчкі, бо хочацца, каб ведалі людцы, чым часам займаюцца нашыя „вялікія культуртрэгеры“, г. ё. асаднікі.

Што яны вельмі „культурны“ народ—ужо мы добра пераканаліся. Маючы па 20—30 дзес. добрае зямлі, ядуць хлеб толькі да Каляд, а каб есьці яго і да Вялікадня, займаюць усялякія „пасады“, а часам, без усялякіх канцэсіяў і патэнтаў, адкрываюць розныя фабрыкі — дзеля вырабаў краёвых.

Гэтымі днямі асаднік Кнэт з братам (з асады Зарамбкова, Празароцкае гміны) зайшліся ў в. Кульгаі, дзе пачалі купляць масла, яйкі, паслалі па гарэлку, і за ўсё плацілі шчодра „зьвінячай“ манэтай, г. ё. пяцьдзесят грашоўкамі. Гэтая манэта папала ў Празарокі і аказалася... фальшывай, бо згібалася ў пальцах! У справу ўмяшалася паліцыя. Дапыталіся, адкуль грошы. Зрабілі ў „культурных фабрыкантаў“ рэвізію і знайшлі нейкі мэталь і банку з нейкай рашчынай. 30. VIII. паноў „фабрыкантаў“ пагналі ў Глыбокае.

На гэты раз „культурныя паны“ перастараліся. Відаць, хацелі дапамагчы скарбу ў выпуску білёну, каб менш было працы ў Варшаве. Але, відаць, яшчэ ня скончылі поўных курсаў чэканкі манэты. Ну, гэта нічога: з часам давучацца! Толькі-ж, на-жаль для іх, ніхто не бярэцца іх „вучыць“ так, як вучаць часам нашых сялян—у пяты кіямі...

Гожа дадаць, што (як голасна кажуць людзі) адзін з гэтых „міністраў скарбу“ займаў і „ганаровую пасаду“. Дык і хацеў прыслужыцца ня толькі міністэрству ўнутраных спраў, але і міністэрству фінансаў. Але двум панам немагчыма ўслужыць, дык і сарвалася! **Нядоля.**

## Нашы прадажнікі.

(М. Карэлічы, Наваградзкага пав.).

15 жніўня 1926 г. карэліцкі солтыс А. Богуш склікаў сход у гмінным памяшчэньні на перавыбары солтыса. Хоць і мала сабралася людзей, але войт карэліцкае гміны Лагута, якому пісары ня-

# Прысяга над крывавымі разорамі.

(Перадрук з № 1 „Нашае Долі“ 1906 г.).

Быў цёплы васеньні дзень. Нівы ціха адпачывалі пасьля летняе працы. Цёмны лес шаптаўся ў глыбокай задумі. Буслы тужліва ляцелі на вырай.

Гэтага дня маркотны і згорблены пад цяжкаю хмараю невясёлых дум ледзьве-ледзьве поўз стары Мацей у поле. „Галава баліць, — рук ня зьняць“,—бурчэў ён, пацягіваючыся. „Дзяцей дагадаваўся, а адпачыць некалі і незакім“. — Так ён сам сабе жаліўся.

Праўда, у Мацея былі тры сыны: аднаго ўзялі ў маскалі, другі паехаў да Пецярбурга шукаць хлеба, трэйці пайшоў за парабка да двара, а бедны Мацей з жонкаю і дзьвюма малодшымі дзяўчаткамі астаўся ў хаці на сваей гаспадарцы.

Бедната, адзіноцтва, сілы ўжо ня тыя,—а рабі і рабі, працуй без канца... Мардасовічу за лён, Бізуноўскаму за пашу, а там і за бульбу плужы і плужы што-дзень на адработках, так што сваё хоць і вузка, і лында, але і то няхват часу ў пару засеяць. Ось і цяпер суседзі ўжо даўно пасеялі і пабаразьнілі, а Мацей толькі першы дзень выйшаў на сваё і то быў хворы.

Аднак, перамагаючы сябе, насыпаў жыта ў фартух, напляваў у жменю, чарпануў зярнят і са славамі: „Радзі, Божа!“ сыпануў зерне на чорную глебу.

Зярняты замігацелі на ральлі. А Мацей стаяў з пасалавеўшымі вачамі і шаптаў: „Не магу,—надта-ж галава баліць і сон морыць...“ І, не ўкладаючыся ані пасьцілаючыся, ён, як стаяў, так і лёг, так і заснуў...

Спаў, як пласт, упапярок загону з раскінутымі рукамі. Твар быў бледны, вусны чорныя ад смагі; дыхаў ён часта і з якімсь хрыпам. Здалёк выглядаў на чалавека, каторага вось-вось раскрыжавалі і прыбілі да зямлі, і так ён паволі канае...

Мацей спаў і сьніў. Сьніў ён, што сабралася моц народу на яго ніве: былі там маладыя і старыя, і мужчыны, і кабеты, і дзеці — ў розных вопратках, і ўсё крычалі: „...Вузка! Цесна! Мала!..“ А Мацею здавалася, што і ён сам стаіць пасярод гэтага народу, і што ўсе чакаюць, што і ён сам, Мацей, скажа, і што вось-вось к яго сэрду падходзіць нейкі жаль, і што ён так сама пачынае крычаць: „вузка! цесна! мала!“

Аж, здаецца, выбягае сусед Астап, заціснуўшы кулакі, і крычыць яшчэ мацней за Мацея:

— „А скуль узяць?! Скуль дастаць?! Кажы: скуль?...“

Тады захістаўся народ і зароў:

— „Глядзіце: во—прасторы! Во нівы, лясы, палі! Усё гэта—ваша!..“

А Астап:

— „Лжэце! Няпраўда! Не дадуць: то казённае, то дворнае,—ні я, ні вы ня маем права! Не дадуць, паб'юць!..“

Вось далей здаецца Мацею, што з цьмы народу выходзяць яго тры сыны: парабак дворны, салдат і работнік пецярбурскі — і становяцца на калены і прысягаюць громка, ясна, паволі:

— „Мы дамо! Мы сіла—мы права!“

Мацей абліваецца потам, сэрца ў яго б'ецца... І здаецца яму, што ўсё гэта спавіў туман: толькі разоры стаяць поўны крыві, а над імі вісяць тры скрыжаваныя далоні... І раздаецца ціхі, ясны голас:

— „Мы сіла! Мы права!“

**Мацей Крапіўка. („Цётка“).**

